Цана асобнага нумару: 20 гр.

Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 18 (165) Вільня, Серада 22 Лютага 1928 г. Год IV.

# СЯЛЯНСКАЯ НІВА

Няхай жыве Беларускі Народ!

Зямля сялянству бяз выкупу!

АДРЭС РЭДАКЦЫІ І АДМІНІСТРАЦЫІ: Вільня, Вострабрамская вул. № 8, кв. 1. (Wilno, ulica Ostrobramska Nr. 8, m. 1). Рэдакцыя адчынена штодня ад 9 да 3 гадз. апрача сьвята. Рэдактар прыймае ад 12-ай да 2-ой гадзіны.

Орган Беларускага Сялянскага Саюзу. Беларуская палітычная, грамадзкая, літэратурная і гаспадарчая газэта. — ВЫХОДЗЕ Ў СЕРАДУ І СУБОТУ. —

ПАДПІСКА: На адзін месяц — 1 злоты, на тры месяцы — 3 зл., на шэсьць месяцаў — 4 зл., на год — 8 зл. Для заграніцы удвая даражэй. Аплата надрукаванага залежыць ад Рэдакцыі.

**18** *Гэта нумар Беларускага Цэнтр. Аб'яднан. Камітэту Блёку Нацыян. Меншасьцяў, дык усе Беларусы павінны галасаваць за гэты нумар* **18**

## Выбарны загад.

### Марш на выбары!

З гэтакімі словамі зьвяртаецца да вас, грамадзяне-Беларусы, вашая газэта. Тут чуецца ўжо ня просьба, а загад, бо ісьці на выбары гэта ня ласка ваша, а абавязак, бо галасуючы, гэтым самым вы ня робіце каму небудзь паслугу, а выконваеце павіннасьць у адносінах да самых сябе.

Вось гэты выбарны загад мы выдаем за дзесяць дзён да выбараў, (але-ж гэта не зарана), з такім рахункам, што покуль ён дойдзе да вас, у нашыя беларускія гаротныя вёскі, дык дзень выбараў прыблізіцца. І яшчэ трэба ведаць, што трэба нейкі час на тое, каб кожны выбаршчык падгатаваўся да выбарнага паходу. Ня думайце, грамадзяне-Беларусы, што павіннасьць і абавязак ваш канчаецца на тым, што пайсьці і аддаць свой голас!... О, не! Акрамя таго, што кожны Беларус павінен пайсьці сам, ён павінен дагледзець, каб і яго суседзі зрабілі тое самае. Кожны Беларус, які ўжо зразумеў справу, павінен прыглядзецца да сваіх суседзяў і знаёмых, каб на тых, якія ня хочуць—уплынуць, тым, якія ня ведаюць як зрабіць—паказаць, а тых, якія адсталі—паклікаць. Знача, абавязкам кожнага Беларуса ёсьць ня толькі самому ісьці, але-ж вясьці за сабою і другіх. Вось чаму мы выдаем наш выбарны загад за дзесяць дзён да выбарнага паходу.

Кажучы „марш на выбары!“ мы ня хочам пасылаць выбаршчыкаў на ўдалую!... Мы разам з загадам выдаем і маршрут, вызначаем той пункт асягнуўшы які, нашы выбаршчыкі будуць чакаць далейшага маршруту. А знача:

4 сакавіка, у нядзелю, кожны выбаршчык Беларус, маючы пры сабе выбарную картачку з № 18, павінен пайсьці да абвадовае выбарнае камісіі з такім рахункам, каб быць там а 9-ай гадзіне раніцай. Прышоўшы ў памешканьне абвадовай выбарнай камісіі, выбаршчык павінен падыйсьці да стала, за якім сядзіць выбарная камісія і назваць сваё прозьвішча і імя, паказваючы пры гэтым пашпарт, вайсковую кніжку ці пасьведчаньне аб сваей уласнай асобе. Атрымаўшы ад старшыні выбарнай камісіі канвэрт з казённаю пячаткаю, выбаршчык павінен палажыць у яго картачку чыстую, бяз ніякіх памаркаў, белую, з напісанай ці надрукаванай цыфрай 18 і заклеіўшы, аддаць канвэрт старшыні, чакаючы пры стале, пакуль старшыня ўкіне канвэрт у скрынку. Зрабіўшы гэта можна лічыць, што справа галасаваньня ў Сойм закончана.

З вышэй падананага відаць, што для таго, каб выканаць выбарны абавязак, выбаршчык павінен мець картачку з напісанай ці надрукаванай цыфрай 18 і мець які-небудзь дакумант. Калі няма дакуманту, дык трэба яго здабыць. Трэба таксама памятаць, што беларускі нумар толькі 18, дык дзеля гэтага павінны пільнавацца, каб які ліхадзей ня даў вам які-небудзь іншы, чужацкі нумар. Гэтага трэба сьцерагчыся, асабліва няпісьменным. Браць надрукаваную картачку трэба толькі ад тых людзей, якім можна даверыцца. Бо, магчыма, будуць і такія людзі, якія нарачна, каб змарнаваць ваш голас, дадуць вам на шкоду неадпаведную, няважную картачку.

Галасаваньне гэтае зьяўляецца тайным, так што выбаршчык, калі ён хоча, дык можа нікому не паказваць тую картачку, якую ён укладае ў канвэрт.

Гэта вельмі добра дзеля таго, што пры гэтакім парадку галасаваньня выбаршчык можа пазбавіцца націску з боку іншых.

Вытлумачыўшы ўвесь маршрут і ход, якім трэба кіравацца кожнаму выбаршчыку пры выкананьні яго абавязку: пры галасаваньні на прадстаўнікоў ад Беларусаў у польскі парлямант, мы хочам прытачыць некалькі слоў і аб тым, чаго павінен дамагацца выбаршчык ад тых людзей, якія пройдуць пасламі ў польскі Сойм.

Выбаршчыкі Беларусы павінны ведаць, што паслы—гэта абаронцы Беларускага працоўнага Народу, яго правоў і інтарэсаў. Так што, аддаючы сваю картачку за № 18, кожны выбаршчык Беларус гэтым самым дае наказ таму, хто будзе выбраны паслом, каб гэты пасол меў на ўвазе абарону правоў і інтарэсаў Беларускага працоўнага Народу, як свае вочы ў лобе.

Дзеля таго-ж, каб бараніць правы і інтарэсы Беларускага працоўнага Народу было лягчэй і каб ухіліцца ад тэй шкоды, якую можа даць Беларусам выбарны закон, Беларусы стварылі Блёк Нацыянальных Меншасьцяў. Гэта знача, што Беларусы і другія народы няпольскай нацыянальнасьці, як Украінцы, Немцы і Жыды, стварылі саюз. У гэтым наша сіла і перамога.

Беларускія паслы з Блёку Нацыянальных Меншасьцяў будуць дамагацца для працоўнага народу: для сялянства—зямлі бяз платы і выкупу, для работнікаў—палепшаньня ўмоваў працы. Гэта стаіць на першым месцы іх праграмы, бо ад гэтага залежыць дабрабыт працоўнага чалавека.

Дык, грамадзяне Беларусы, марш на выбары! Галасуйце толькі за свой сьпісак № 18.

## Выбарная фільма.

### Галасаваць будуць толькі за сьпісак № 18

Ад усіх мясцовасьцяў Дзісьненскага павету надходзяць весткі, што тутэйшае беларускае жыхарства вельмі спачувае Блёку Нац. Меншасьц. і за яго № 18, аддадуць свае галасы. Агітатараў ад польскіх партыяў проста такі праганяюць далоў, толькі бэбэхаўцаў з № 1 не чапаюць, ведаючы, што гэтая беспартыйная партыя займае прывілегіраванае палажэньне. Але-ж галасаваць за гэты сьпісак ніхто ня будзе, дзеля таго, што ён для беларусаў чужы і ў дадатак яшчэ манархістычна-абшарніцкі. Сяляне гавораць, што нам цара, ці круля ня трэба, а ад польскіх абшарнікаў нам нічога добрага ня было і ня будзе.

Ніхто ня хоча нават і слухаць аб расейскім сьпіску, памятаючы тыя дабрадзействы, якія ён можа даць. Расейскія дабрадзействы выяўляюцца — ўтапіць Беларусаў у расейскім моры. Але-ж гэтага нам ня трэба.

Аб „вызваленьнях“ ды другіх левых „ваўкалаках“ гэтага гатунку сялянства адклікаецца з пагардай да іх і агідай.

Такія-ж самыя весткі надходзяць з Браслаўскага, Сьвянцянскага і Пастаўскага паветаў, якія ўваходзяць у склад Сьвянцянскага выбарнага вокругу.

Так што на выбарах Блёк Нацыянальных Меншасьцяў у Сьвянцянскім вокругу здабудзе абсалютную перамогу.

З гатага вокругу трэба выбраць 6 паслоў. Выстаўлены кандыдатамі: гр. гр. Каруза П., Стэповіч А., ад Сьвянцян. павету, Юхневіч К., ад Браслаўскага павету (цяпер нядаўна арыштаваны), Конан ад Дзісьненскага павету. Жыд адвакат Чэрніхаў аж на пятым месцы.

Так што парляманцк. прадстаўніцтва ад Сьвянцянскага выбарнага вокругу за Беларусамі забясьпечана.

### Вялізарныя пасьпехі ў Лідзкім выбарным вокрузе.

Беларускае сялянства Лідзкага павету вельмі прыхільна спатыкае агітатараў і інструктароў Бел. Цэнтр. Аб'яднага Выбарнага Камітэту. Нацта цікавяцца яго прадвыбарнай літэратурай і ўсюду пануе поўнае перакананьне, што галасаваць трэба толькі за № 18.

Ніякія польскія партыі пасьпеху ня маюць... Асабліва-ж з пагардаю адносяцца да прадажніка Янкі Станкеўчыка. Яго інструктары ня маюць ніякіх аргумантаў, каб агітаваць. Выданая Белар. Цэнтр. Аб. Выб. Камітэтам лістоўка „Хто такі Янка Станкевіч і яго выбарная крамка?“ адкрыла ўсім вочы, так што Янка Станкевіч абсалютна праваліўся. Паўлюкевічаўскі сьпісак, які носіць назоў „Агульна — нацыянальны“, таксама, як і Станкевічаўскі, нікога ня цікавіць, а наадварот, выклікае пагарду да яго.

У Валожынскім, Маладэчанскім, і Вялейскім паветах бачым тое самае.

Быўшыя грамадзіты: Сухадолец, Шакун, Валынец і Алекс. Каляда за тое, што прыхіліліся да Станкевічавае працы, атрымалі ўжо запраўды заслужаныя назовы: прадажнікі і здраднікі. Гэтыя людзі ўтрацілі ўсякую пашану, на іх глядзяць, як на аружжа ў чужынецкіх руках, якім цёмныя сілы, на чале з місюгінай Янкам Станкевічам, пачалі змагацца з беларускімі адраджэнскім рухам.

Беларускае сялянства ў пераважнай большасьці выказываецца за Блёк Нац. Меншасьцяў і будзе галасаваць за № 18 уважаючы, што гэта ёсьць запраўды адзіны беларускі сьпісак, кандыдаты якога стаяць на грунце шчырай абароны правоў і інтарэсаў Беларускага Народу.

### Справа сьпіску кандыдатаў у Лідзкім выбарным вокрузе.

Лідзкая Акружная Выбарная Камісія уняважніла сьпісак кандыдатаў Блёку Нацыянальных меншасьцяў. Пастанова камісіі абжалавана ў Найвышэйшы Суд. Ёсьць надзеі, што Найвышэйшы Суд пастанову камісіі адхіліць, вярнуўшы гэтым важнасьць сьпіску. Так што трэба галасаваць толькі за сьпісак № 18.

### Палажэньне выбарнае справы ў Наваградзкім вокрузе.

У Наваградзкім вокрузе выстаўлена вельмі многа сьпіскаў, якія маюць беларускія назовы.

Вядомы ў Баранавіцкім раёне „асобнік з пад чорнае гвязды“ Аўгень Міткевіч, той Міткевіч, што пракраўся ў бытнасьць кіраўніком прытулку ў Горадні і што нарабіў кнога розных подлых справаў, а таксама вядомы, як падліза і служка дужых гэтага сьвету, выставіў свой сьпісак кандыдатаў. Галасаваць за гэты сьпісак ніхто ня будзе.

Паўлюкевіч, гэты ганебнік, таксама ня мае ніякіх пасьпехаў. Тыя мясцовасьці, як Сіняўка і Дунайчыцы, якія, няведама чаму, лічыліся дагэтуль гнёздамі Паўлюкевіча, выявілі найлепшую беларускую нацыянальную сьведамасьць і будуць галасаваць за № 18, адзіны, запраўды беларускі сьпісак.

Некалі карыстаўся павагаю ў Наваградзкай ваколіцы былы грамадзіст Чатырка. Але-ж цяпер, калі Чатырка паставіў інтарэсы сваей сям'і вышэй інтарэсаў народных і пайшоў на ўгоду з непажаданымі для Беларусаў дзейнікамі, дык адразу ўтраціў пашану. На яго глядзяць, як на здрадніка і раўняюць з Міткевічам ды Паўлюкевічам.

Магутным канкурэнтам мог быць сьпісак, калі-б удачна выставілі яго тыя асобы, якія былі і працавалі ў б. „грамадзе“. Але-ж дзеля таго, што яны разьбіліся і выставілі два сьпіскі, акрамя Чатыркі, дык цяпер сяляне гавораць, што няма чаго за іх галасаваць. Што яны могуць зрабіць для народу, калі нават самі паміж сабою дзеляцца. Як ведама, у Наваградзкім выбарным вокрузе б. грамадзіст Чатырка выставіў свой сьпісак, аб якім гаварылася вышэй. Меншыя-ж рыбкі яшчэ стварылі два сьпіскі, пры чым на адзін паставілі арыштаваных паслоў, а другі ўжо апазыцыйны (праціўны) гэтаму сьпіску. Так што паставіўшы гэтак няўдачна справу сьпіскаў, дзе выступілі два сьпіскі адзін проці аднаго, ды распачалі гэтакім парадкам канкурэнцыю за перамогу, яны абсалютна адхілілі ад сябе сваіх сымпатыкаў. Дый праўда! Як галасаваць, калі ёсьць два сьпіскі, якія выліліся з аднэй крыніцы? Ясна і зразумела, што гэтым правалілі сваю справу.

### Да агульнага ведама Беларусаў.

У Сьвянцянскім выбарн. вокрузе (Сьвянцянскі, Пастаўскі, Браслаўскі і Дзісьненскі паветы) ёсьць толькі адзін беларускі сьпісак № 18. Іншых беларускіх сьпіскаў там няма.

У Беластоцкім выбарным вокрузе (Беластоцкі, Ваўкавыскі і Сакольскі паветы) таксама ёсьць толькі адзін беларускі сьпісак, які мае № 18.

Гэтакім парадкам у гэтых вокругах вельмі дагодным зьяўляецца палажэньне выбаршчыкаў-Беларсаў, якім ня трэ' будзе асьцярагацца розных Паўлюкевіваў, Янкаў Станкевічаў, Чатыркаў, як у іншых выбарных вокругах.

У гэтых вокругах трэба асьцерагацца польскіх падшыванцаў, ды расейскіх манархістаў-абшарнікаў.

### Агітацыя бэ-бэхаў.

„Gazeta Warszawska Poranna“ ў № 45 падае наступную вестку: „У дзяржаўных аўтамабільных і аэрапляных майстроўнях у Варшаве работнікі атрымалі апошнюю пэнсію ў мяшочках, на якіх было напісана: № 1 зьяўляецца адзіным сьпіскам марш. Пілсудзкага, каторы імкнецца да ўмацаваньня дабрабыту краю. Не парляманцкія партыі, але ўрад мар. Пілсудзкага даў табе працу, хлеб і г. д.“.

